## Плёткі.

Ой сястрыца, Шчабятуха,
Дай скажу табе на вуха.
Толькі-ж ні гу-гу нікому,
Ня выносъ сьмяцьця ты з дому.
Бачыш, дэмакраты справа
Круць-муць, туды-сюды жвава
Замуцілі ваду самі
Ды зубамі і рукамі
Хваць за рыбку, што завецца
Паіхнаму «rząd większości.»
Ну і як табе здаецца
Далі яны каму штосьці?
Абецанак і тых мала
Для мнейшсьці перапала.
А ёсьць яшчэ паны злева
Дык прасілі хоць бы косьці.
Ні мур-мур, цьвярдзей за дрэва.
Шмат было там крыку, злосьці.
Вось прыслухайся... Я чую
Нават тут іх спорку злую...
Ой баюся — будзе ліха!
Кажуць, пачакаўшы крыху,
Як набракне „злоты польскі"
У нязьмерным моры марак —
Сярод гэтых спрэчак, сварак —
Каўтне ціханька, як камень
Гэты „злоты" на дно твані.
Дык тады, мая сястрыца,
Кажуць прыйдзе Канецпольскі,
А з ім, кажуць, будзе біцца
Сам Пілсудскі з сваім войскам.
А там яшчэ нехта трэці
Мае гэтых двух на мэце.
І закруціцца крутуха.
Толькі-ж глядзі, Шчабятуха,
Не выносъ сьмяцьця ты з дому,
Не кажы аб тым нікому.

**Сакатуха.**

# З усяе Беларусі.

### В. Паперня, Бяларуцкай вол.

21 гэтага траўня ў в. Паперні быў сход усіх грамадзян сельсавету. На павесцы дню было некалькі пытаньняў. У тым ліку і пытаньне аб п'янстве.

Пасьля дакладу, які зрабіў старшыня сельсавету гр. Драгун, была вынесена вось якая рэзалюцыя-пастанова:

„Заслухаўшы даклад старшыні Паперненскага сельсавету гр. Драгуна Пятруся аб шкадлівасьці самагонкі, мы, грамадзяне сяла Паперні і вёскі Пільніпа, на агульным сходзе аднагалосна пастанаўляем: пры зьявішчы п'яных у нашых вёсках арыштоўваць і адпраўляць у валасную міліцыю.

Вясковай міліцыі прапануецца строга змагацца проціў фабрыкацыі і піцьця самагонкі ў абшарах свайго райёну. Пры выкрыцьці самагоншчыкаў зараз-жа паведамляць аб гэтым уладзе".

### Сельска-гаспад. банк.

У Гомелі з'арганізаваны сельска-гаспадарчы банк, маючы на мэце крэдытаваць сялянства праз камітэты сялянскай узаемнай дапамогі.

### М. Даўгінава, Вялейскага павету.

У траўні месяцы, ня помню добра якога дня прымчаў у наша мястэчка аграмадны самакат бітком набіты людзьмі. Хутка мы даведаліся, што гэтых людзей высылаюць за бальшавіцкую граніцу, што іх ужо ў Радашкавічах перапраўлялі, але бальшавікі назад вярнулі. І вось гэтых „непатрэбных людзей" прывязьлі ў Даўгінава, бо тут граніца праходзіць праз кусты і лясы дык мо бальшавікі ня зглёдзяць. Людзі гэтыя дужа былі памучаныя і згаладалыя, былі хворыя, старыя і малыя, а калі мястачковыя хацелі дапамагчы, дык паліцыя доўгі час не дазваляла, але усёткі ўпрасілі і хто што мог і чым мог дзяліўся з няшчаснымі. Тэй жа ночы іх атправілі на той бок, а на другі дзень бальшавікі вярнулі назад праўда не ўсіх, — можа каторы ў кустох заблутаўся зняможаны. А тых, якіх вярнулі зноў пасадзілі ў самакат і далей кудысь пакацілі. Вось так пакрысе і растрасуць як непатрэбшчыну.

**Даўгінавец.**

**Падтрымовывайце „Наш Сьцяг".**

# З Беларускага Жыцьця.

Касір Т-ва Польскі Лёйд, які прадае білеты на чугунку зьняважыў грубой лаінкай вучняў Беларускай Гімназіі, калі яны хацелі купіць зьніжковыя білеты на праезд дамоў. Тады вучні зьвярнуліся да „Dyrekcji Kolei Państ., дзе ім сказалі, што ўжо ў працягу году яны могуць карыстацца правам зьніжковых білетаў і што аб гэтым мусіла паклапаціцца Беларуская Гімназія.

Хай бы на гэта зьвярнуў той, каму належыць увагу і абразуміў-бы дасужага касіра на другі раз не зьняважаць дзяцей за тое, што яны належаць да так званых нацыянальных меншасьцей.

**Збор на карысьць беларускага прытулку.** 1-га ліпня г. г. адбудзецца скарбоначны збор на карысьць беларускага прытулку ў Вільні. Просяць запісывацца ў зборшчыкі. Запіс прымаецца ў Беларускім Музыкальна-Драматычным Гуртку (Біскупская 12) і ў загадчыцы прытулкам Кавэрда (Вострабрамская 9).

З гэтай прычыны на 26 чэрвеня ў Беларускім М-Драм. Гуртку склікаецца агульны сход ўсіх беларускіх арганізацый на 7-мую гадзіну вечара. Маючы на мэце дрэннае матэр'яльнае становішча прытулку, Камітэт па збору просіць усе арганізацыі прыняць чынны ўдзел.

**Першы раз.** Наложаны арышт на кніжку Ул. Жылкі „Уяўленьне" выданьня „Новага Жыцьця" на днях зьняты і кніжка ў хуткім часе паявіцца ў прадажы.

**Шукалі бомб і дынаміту** 19-га чэрвеня палітычная паліцыя зьявілася ў Беларускім Грамадзянскім Сабраньні і зрабіла агляд усяго памешканьня. Паліцыі быў зроблены данос, што там дзе жыў гр. Ан. Луцкевіч (цяпер там памяшчаецца Грамад. Сабр.) есьць падвал, у якім захованы бомбы і дынаміт.

Праўда падвал нашлі, але замест бомбаў і дынаміту аказалася мяся і кухонныя прылады, належучыя разам з падвалам да Польскага Клюбу Тэхнікаў, які зьмяшчаецца побач з Белар. Грам. Сабраньнем.

**Як анэкдот.** Якомусь судзьдзі гор. Вільні патрэбна памешканьне, у тэй-жа Вільні ёсьць беларуская ўстанова Грамадзянскае Сабраньне, вось магістрат пасылае камісію, каб зрэквізаваць памешканьне ў Грам. Сабр. і перадаць яго судзьдзі. Працяг будзе.

**Справа беларускага тэатру ў Польшчы стаіць вельмі добра.** Вярнуўся з Варшавы грам. Аляхновіч, які езьдзіў да Міністэрства W. R. і O. P. у справе беларускага тэатру. Там яму сказалі што пакуль нічога зрабіць ня могуць, але паабяцалі, што як будзе састаўляцца бюджэт, дык калі што лішняе перападзе, то пастараюцца не забыцца і аб беларускім тэатры. Калі гэтая шчасьлівая часіна будзе, пакуль што нам ня ведама.

Чаму Беларускае Школьнае Т-ва не паклапоціцца аб дазволе ў Польскіх улад прывясьці ў Заходнюю Беларусь школьных падручнікаў, навуковых тэрміналёгій і інш., якія друкаваліся ў Сав. Беларусі?

# З Менску.

### Збор на чырвоны флет.

Па ўсей Сав. Беларусі ідзе рухлівы збор ахвяр на паветраны флёт, дзеля гэтага залажылася асаблівае Беларускае Т-ва прыяцеляў авіацыі. Ужо сабрана грошы на будову самалёта „Савецкая Беларусь" і пачаўся збор на самалёт „Беларускі Селянін".

### Павятовая партыйная школа на беларускай мове.

У 1923—1924 годзе праграмы ўсіх партыйных школ на Беларусі апрацоўваюцца згодна мясцовым ўмовам. У цэнтральную партшколу уводзіцца, як абавязковы прадмет, беларуская мова і гісторыя Беларусі. а ў Менскай павятовай партыйнай школе ўсе галіны навук будуць выкладацца на беларускай мове.

### Перагляд праграмы па беларускай мове й літэратуры ў Сав. Беларусі.

26 і 27 мая г. г. адбыўся сход мясцовых беларускіх настаўнікаў з мэтаю перагледзець старую і выпрацаваць новую праграму па беларускай мове й літэратуры для школ сямёхгодак Савецкай Беларусі.

Перш за ўсё сходам былі заслуханы справаздачы настаўнікаў аб выніках, якія даў 1922-23 навуковы год у навучаньні беларускай мове й літэратуры ў кожнай школе.

Агульны характар справаздач такі, што ў 1922-23 школьным годзе ў сямёхгодках м. Менску выкладаньне беларускай мовы й літэратуры ня было пастаўлена добра, прычына чаго ляжыць у недахопе падручнікаў, адсутнасьці друкаваных твораў шмат якіх пісьменьнікаў і пэўнай цьвёрдай праграмы, а гэтак сама і дзякуючы розным аб'ектыўным умовам.

Пераходзячы да разгляду самое праграмы, сход паперш ае выказаўся за тое, каб праграму, асабліва па мове, пашырыць і курс разьлічыць не на чатыры гады, а на пяць.

Што-ж датычыць праграмы па літэратуры, то такую трэба значна перамяніць для кожнай клясы.

Зрабіўшы свае ўвагі ў стасунку выпрацоўкі новае праграмы як па мове, так і па літэратуры, сход выбраў камісію з пяцёх асоб, якая ўжо канчаткова апрацуе яе й перадасьць на разгляд Г. А, Н. А.

**П.**

# Наша пошта.

**Гр. Гэрбачэўскаму.** Тры Вашыя карэспандэнцыі атрымаалі — дзякуем — усё надрукуем. Пішыце часьцей.

**Пак.** Чакаем Вашага неадкладнага прыезду ў Вільню.

### Ахвяры. заложаныя на прэсовы Фонд.

А. Клім — 35.000, Д. Відук — 69.000, В. Пойдзевіч — 7.500, С. Максіаовіч 80.000, С. В. — 100.000 Х. — 8.300, Невядомы — 300.000 мар.

## Якога грунту і мейсца патрабуе фруктовы сад.

Хто закладае сад, мусіць ведаць, што ня ўсе дрэвы ўдаюцца на тым самым грунце і ў аднолькавым мейсцы. Адны дрэвы патрабуюць для свайго разьвіцьця глыбокую зямлю, другія йзноў добра растуць і на плыткай зямлі; адным снажытны глiністы, або вапністы грунт, іншым ізноў чорны, багаты; адны дрэвы вымагаюць мейсца зацішнага ад ветру і сьцюжы, другія могуць расьці і на выганах. Гэта ўсё залежыць ад таго ці дрэва пускае корні ў глыбіню ці ў шырыню і ці больш трывалае да сьцюжы і ветру.

1) **Яблыня** любіць пакацістую нізіну, зацішную і цёплую. Корні пускае больш у глыбіню, чым у шырыню і дзеля гэтага патрабуе грунту глыбокага і больш багатага, ало ня мокрага.

2) **Грушка** любіць зацішнае і цёплае мейсца. Корні пускае ў глыбіню, дзеля чаго для яе будзе добрым грунт глыбокі а да гэтага цяжкі, клусты і сухі.

3) **Сліва** вымагае мейсца нізкага і зацішнага. Корань пускае ў глыбіню і найлепшым грунтам будзе грунт глыбокі і вільготны. Ня любіць дужа глiністага і сухога грунту.

4) **Чарэшня** любіць высокае і цёплае мейсца. Лепш удаецца на спадах зьвернутых на поўдзень. Корань пускае ў шырыню, дзеля чаго вымагае плыткае зямлі, а да гэтага сухое і вапна-глiністае.

5) **Вішня** падобна як і чарэшня.

6) **Валоскі** гарэх любіць мейсца высокае, цёплае і зацішнае. Корні пускае ў шырыню найбольш спажыўным будзе грунт глiністы з камяністым падкладам.

7) **Парэчка** вымагае грунту сярэдня сухога і легкага, трохі вільготнага.

8) **Агрэст** любіць сярэдня цяжкую зямлю і найлепш над равамі.

9) **Маліка** вытрымлівае зямлю менш багатую.

10) **Ажына** ўдаецца на кожнай зямлі, аднолькава на сонцы і ў цяню.

З паданых прыкладаў бачым, што фруктавыя дрэвы трэба дабіраць адпаведна да грунту і наадварот трэба грунт прыстасоўваць да дрэў. Калі напрыклад грунт будзе глыбокі, багаты і легкі, а да гэтага ў зацішным мейсцы і ў нізіне, дык ужо наперад ведаем, што будзе прыгодны лля яблынь. Калі-ж грунт будзе плыткі, сухі і на высокім мейсцы, дык яблынь альбо груша ня прынясе на ім ніякае карысьці і шкода было-б яе там садзіце, бо гэтакі грунт будзе дужа прыгодны для вішань, чарэшань і г. д.

Той, хто хоча разводзіць сад мусіць наперад спрабаваць якасьць грунту і выбраць на сад адпаведнае мейсца, каб гэтым абыйсьці тыя абмылкі, якія найчасьцей робяцца ў нас, што фруктавыя дрэвы садзяць на грунтах і мейсцах не адпаведных для іх, праз што гэтыя дрэвы хутка зводзяцца і ня прыносяць ні якае альбо надта мала карысьці.

## Рынковыя цэны у Вільні.

**19 чэрвеня 1923 г.**

Жыта—46.000 м., мука пітляваная—82000. ячмень 36000, лён—170.000—200.000, Цэна на скуру ўзрасьлі на 50% за гэтую нядзелю.

21—га чэрвеня за жыта (пуд) плацілі 53000 марак.

## Сэкрэтарыят Беларускага Пасольскага Клюбу.

1) **Вільня**, Віленская вул. 12, кв. 6.
2) **Ліда**, 1 1 Слабодка 8, сэкрэтар Калясінскі.
3) **м. Глыбокае**, Дзісьненскага пав. вул. Сенкевіча 46.
4) **Жодзішкі**, Сьвянцянскага павету кс. Годлеускі.
5) **Наваградак**, Вялікі Рынак 14, сэкр. Я. Біруковіч.
6) **Нясьвіж**, Альбянская 28, сэкр. Ян. Шнаркевіч.
7) **Столбцы**, Шпітальная 22, Г. Сабалеускі.
8) **Баранавічы**,
9) **Горадня**, Мастовая 9.
10) **Валкавыск**, Пясковая 14.
11) **Бельск**, Замкавая вул. 3, кв, 1 сэкр, Канстанты Карыцкі.
12) **м. Саколка**, Горадзенская вул. 34.
13) **м. Клешчэлі**, Бельскага павету.
14) **м. Крынкі**, Горадзен. павету, Горадзенская вул. 34.
15) **Пружаны**, Вуліца кс. Буткевіча, 16.

**Беларускі Пасольскі Клюб**, Варшава, Вейская вул. Сойм.

Газэта высылаецца усім падпішчыкам рэгулярна, апрача канфіскаваных намяроу.

Хто з падпішчыкау не атрымлівае, просім паведамляць аб гэтым адміністр. „Нашага Сьцягу".